РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 61 (7874) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА, 9 жніўня 2000 г. Цана 25 руб.

## УБІРАЦЬ ХУТЧЭЙ І ЛЕПШ

7 жніўня 2000 года ў райвыканкаме адбылася аператыўная вытворчая нарада, на якой разгледжаны шэраг неадкладных пытанняў работы аграпрамысловага комплексу. Прысутнічалі кіраўнікі калгасаў, прадпрыемстваў, арганізацый, работнікі ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання, райвыканкама, спецыялісты.

Вёў нараду старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў. Ён адзначыў, у прыватнасці, што ў раёне па стану на 7 жніўня было ўбрана 32,3 працэнта збожжавых культур. Сярэдняя ўраджайнасць склала 19 цэнтнераў з гектара.

Узнікае пытанне: ці маглі быць гэтыя паказчыкі лепшымі? Адказ адназначны: безумоўна, так. А не дасягнуты лепшыя вынікі па ўраджайнасці, убранай плошчы ў сувязі з банальнымі прычынамі. Далёка не ўсё робіцца ў гаспадарках па забеспячэнню высокапрадукцыйнага выкарыстання уборачнай тэхнікі, недапушчэнню яе прастояў з-за няспраўнасці. Шмат зерня губляецца на ніве.

Вось некалькі адрасаў у пацвярджэнне. Пры праверцы калгаса "Расія" выяўлена, што камбайны працавалі з прыўзнятымі жняяркамі, на павышаных хуткасцях. Такая "тэхналогія" непазбежна вядзе да значных страт збожжа, што і назіралася. Нягледзячы на строгія патрабаванні па герметызацыі і ачыстцы вузлоў камбайнаў, не ўсе механізатары надаюць ім важнае значэнне і добрасумленна выконваюць свае прамыя абавязкі.

Распаўсюджаны такі недахоп. Пасля завяршэння рабочага дня камбайны накіроўваюцца на стаянку на машынныя двары. Раніцай адсюль ідуць у зваротны шлях. Губляецца марна час, перарасходваецца паліва, ламаецца складаная тэхніка. Лепш было б арганізаваць ахову і пакідаць начам камбайны на ніве, там дзе працавалі ўвечары.

Бадай, горш за ўсё тое, што нямала уборачнай тэхнікі бяздзейнічае, а няспраўнасці ўхіляюцца неаператыўна. Падобныя факты маюць месца ў калгасах імя Калініна, "Новае жыццё" і іншых.

Адказнасць за неарганізаванасць, упушчэнні і недахопы, тэхналагічны брак нясуць у першую чаргу кіраўнікі і спецыялісты гаспадарак. У той жа час нішто не вызваляў ад яе спецыялістаў тэхналагічных раённых груп, райсельгасхарчу. Яны павінны ўзмацніць кантроль за правядзеннем жніва на месцах, патрабаваць ад гаспадарнікаў няўхільнага выканання ўказанняў.

Завяршаючы аналіз ходу ўборкі ўраджаю, М. Р. Барысаў заклікаў усе кадры прыкласці максімум намаганняў для павышэння яе тэмпаў і якасці. Гэта самая галоўная задача сёння.

Старшыня нагадаў яшчэ адно важнае патрабаванне Прэзідэнта краіны, выказанае на рэспубліканскай селектарнай нарадзе, прысвечанай уборцы. Трэба дапамагчы вяскоўцам убраць збожжавыя культуры на прысядзібных участках, выдзеліць камбайны. Па даных уліку, тут вырашчана збажына больш як на 2 тысячах гектараў.

**(З аператыўнай нарады ў райвыканкаме)**

Памятаючы хлебаробскую запаведзь: ураджай убірай і пра будучы дбай, неабходна ўсюды актыўна весці падрыхтоўку да асенняй сяўбы. Перш за ўсё – забяспечыць дастатковую нарыхтоўку і засыпку насення азімых культур. Зараз варта ўсюды ўбіраць насенныя ўчасткі жыта і пшаніцы, ачышчаць і даводзіць да кандыцый сабраны пасяўны матэрыял.

Вялікія плошчы зямлі ў кожным калгасе трэба ўзараць зараней. Аднак тэмпы, з якімі выконваецца такая работа, не задавальняюць. У большасці гаспадарак ворыва глебы не вядзецца, або ідзе марудна.

Акрамя таго, пад азімыя яшчэ не ўносяцца арганічныя ўгнаенні. Хаця кіраўнікі калгасаў з'арыентаваны і павінны арганізаваць запраўку зямлі арганікай на вызначаных плошчах. Ігнараванне гэтага патрабавання ў мінулым годзе прывяло да таго, што і сёлета, нягледзячы на параўнальна спрыяльныя ўмовы надвор'я, асобныя калгасы збіраюць мізэрныя ўраджаі збожжавых культур. Глеба губляе сваю ўрадлівасць, бо не ўгнойваецца дастаткова. Не ўсе культуры як след падкормліваліся.

Пачаць унясенне арганікі павінны ўсе калгасы. Патрабавана, каб актыўна ўключыўся і механізаваны атрад ААТ "Касцюковіцкая райсельгасхімія". Папрацаваць трэба так, каб стварыць добрую аснову будучага ўраджаю азімых і істотна павысіць яго ўпараўнанні з сёлетнім.

Адна з важных задач – нарыхтоўка кармоў. Рэкамендавана малаўраджайныя ўчасткі збожжавых культур убіраць на сянаж. Як вядома, у гэтым годзе пашыраны плошчы пад кукурузай. Ураджай абяцае быць нядрэнным. Ёсць магчымасць нарыхтаваць кукурузны сілас. Для ўборкі культуры створана ў раёне некалькі механізаваных атрадаў. Але пакуль яны не прыступілі да закладкі сіласу. Таму дадзена распараджэнне калгасам, абслугоўваючым арганізацыям – ПМК-90, ПМС, райаграпрамтэхэнерга, сельгасхіміі – неадкладна разгарнуць уборку кукурузы. Прамаруджванне можа прывесці да непажаданых вынікаў.

Маецца значны рэзерв папаўнення карманых запасаў за кошт другога ўкосу траў. Іх трэба ўбіраць на сянаж і сена. Зноў жа дапамогу калгасам павінны аказаць шэфствуючыя працоўныя калектывы горада.

На нарадзе закраналіся пытанні вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі. Працягваюць мінусаваць па надоях малака калгасы імя Карла Маркса, "Новае жыццё", "Расія", "Бароньці". Гэта цяжка зразумець. Зараз хапае травы, ёсць канцэнтраты. Значыць, пасьба, карміенне і догляд жывёлы не арганізаваны. Безгаспадарчасць трэба ўхіліць кіраўнікам калгасаў без усялякіх агаворак, падкрэсліў М. Р. Барысаў. Ён патрабаваў павысіць і прывагу жывёлы.

Пракурор раёна Анатоль Малахоўскі ў сваім выступленні сказаў, што па даручэнню органаў улады пракуратура выяўляе факты халатных адносін кіраўнікоў калгасаў да выканання абавязкаў. Некаторым з іх накіраваны прадпісанні ў сувязі з няякаснай уборкай ураджаю, нізкай прадуктыўнасцю жывёлы. Нельга дапускаць безгаспадарчасць. Будуць прымацца меры па закону.

Першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік райсельгасхарчу Віталь Грышанаў звярнуў увагу гаспадарнікаў на завяршэнне закупу цялят у насельніцтва. Трэба згодна з дагаворамі прыняць яшчэ прыкладна 700 галоў маладняку. Крэдыты ў раён паступілі. Разлік са здатчыкамі будзе праводзіцца неадкладна калгасамі.

Разгледжаны ў райвыканкаме і некаторыя іншыя пытанні.

## ШТО ЗА РАШЭННЕМ?

# Станоўчых змен пакуль мала

У красавіку 2000 года раённы выканаўчы камітэт разгледзеў пытанне аб рабоце Дзямідавіцкага сельскага выканаўчага камітэта ў святле патрабаванняў Закона "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь". На сваім чарговым пасяджэнні ў ліпені г.г. райвыканкам вярнуўся да гэтага пытання і прааналізаваў ход выканання прынятага ім раней рашэння.

Як адзначалася, Дзямідавіцкі сельвыканкам праводзіць пэўную работу па ажыццяўленню пастаўленых задач. На яго пасяджэннях разглядаюцца пытанні эканамічнага і сацыяльнага развіцця. За апошні час абмеркаваны пытанні аб захаванні жыллёвага заканадаўства на тэрыторыі сельсавета, аб рабоце адміністрацыйнай камісіі пры сельскім выканкаме, аб выніках абследавання матэрыяльна-бытавых умоў інвалідаў і ўдзельнікаў вайны, сем'яў загінуўшых, адзінокіх непрацаздольных грамадзян, сем'яў з дзецьмі і мерапрыемствах па задавальненню іх патрэб, а таксама аб ходзе падрыхтоўкі школ да работы ў новым навучальным годзе. Рэгулярна заслухоўваюцца інфармацыі аб выкананні раней прынятых рашэнняў.

Важнейшая задача сельскага выканаўчага камітэта – арганізацыя закупу малака і мяса ў насельніцтва. У 16 вёсках з 17 праводзіцца збор малака. Закуп вядзецца з 293 сельскіх падворкаў, хаця на 418 утрымліваюцца каровы. За першае паўгоддзе па сельсавету закуплена 123,2 тоны малака, у тым ліку па калгасах "Радзіма" і "Новае жыццё" адпаведна 53,7 і 69,5 тоны. Гэта на 900 кілаграмаў менш, чым было сабрана летась. Закуплена малака ў разліку на карову 295 кілаграмаў, за аналагічны перыяд 1999 года – 294.

У насельніцтва прынята 156 цялят, з іх у калгасе "Радзіма" – 75 і "Новае жыццё" – 81 галава, што склала 46 працэнтаў ад агульнай колькасці кароў у першай гаспадарцы і 32 працэнты – у другой.

Сельскі Савет, сельвыканкам не прынялі ўсе меры па павелічэнню закупу малака і цялят у насельніцтва. Не арганізавана спаборніцтва сярод малаказборшчыкаў і малаказдатчыкаў, не распрацаваны ўмовы і меры заахвочвання, парадак падвядзення вынікаў. У сельскім Савеце не вядзецца экран закупу малака, няма дакументаў нагляднасці.

Зараз у калгасах сельсавета ёсць праблемы з забеспячэннем сенам, камбікормам падворкаў мясцовых жыхароў. У калгасе "Новае жыццё" не хапае пашы для прыватнай жывёлы.

Па-ранейшаму сельвыканкам недастаткова ўвагі ўдзяляе рабоце калгасаў "Радзіма" і "Новае жыццё". За мінулы перыяд года, як і летась, на пасяджэннях выканкама не разглядаліся пытанні вытворчай дзейнасці гаспадарак. Няма ўзаемаразумення ў старшынь сельскага Савета Генадзя Малюгі і калгаса "Радзіма" Анатоля Краўчанкі.

**(Працяг на 2-й стар.)**

## ДОШКА ГОНАРУ

**На ўборцы збожжавых лепшых вынікаў па стану на 7 жніўня дабіваюцца:**

Экіпаж у складзе **ГРАКАВЫХ Сяргея Аляксандравіча** і яго брата Уладзіміра Аляксандравіча з калгаса "Парыжская камуна", які на камбайне "Дон-1500" намалаціў з пачатку жніва 348 тон.

Экіпаж у складзе **ЛАХЦІКАВА Пятра Аляксандравіча і МЯКЕНЬКАГА Аляксандра Пятровіча** з гэтай жа гаспадаркі намалаціў 304 тоны.

**БАЛДУЕЎ Вячаслаў Віктаравіч і АРЛОЎ Віктар Міхайлавіч** з калгаса "Дуброва" намалацілі з пачатку ўборкі камбайнам "Дон-1500" 307 тон збожжа.

**На перавозцы збожжа вызначаецца:**

**КАЗАКОЎ Аляксандр Фёдаравіч** з калгаса "Новы быт", які на аўтамашыне "Урал" перавёз з пачатку ўборкі 404 тоны збожжа.

# Рыхтуй паліва летам

Намеснік старшыні райвыканкама М. Ф. Чэпікаў правёў нараду па падрыхтоўцы устаноў, арганізацый, прадпрыемстваў раёна да ацяпляльнага сезону. На яе былі запрошаны загадчыкі аддзелаў культуры і адукацыі, кіраўнікі бюджэтных арганізацый, устаноў, старшыні сельскіх Саветаў.

Кіраўнікі арганізацый, устаноў давалі тлумачэнні аб тым, што яны прадпрынялі, каб зімоўку сустрэць падрыхтаванымі. На жаль, многія прыйшлі на нараду, каб паведаміць, што да гэтай важнай справы яшчэ не прыступалі. Хаця запэўнівалі, што да 15 жніўня з нарыхтоўкай паліва справяцца.

У той жа час, як паведаміў загадчык аддзела адукацыі райвыканкама В. М. Шведаў, у некаторых школах раёна не падрыхтаваны кацельні. Дырэктар сельскага жыллёва-камунальнага камбіната М. М. Мамонаў запэўніў, што да 15 верасня работнікі ўстановяць кацёл у Машаўской школе, адрамантуюць каналізацыю ў Бялынкавіцкай, іншых навучальных установах і дзіцячых садках.

У многія ўстановы аддзела адукацыі пачалі завозіць торфабрыкет з райпаліваазбыту. Аднак гэты від паліва паступае вельмі дрэнная якасці.

Праблем, якія трэба вырашыць да пачатку ацяпляльнага сезону, шмат. Як будуць выконвацца абяцанні некаторых кіраўнікоў, вырашана падвесці вынік на чарговай нарадзе, якую плануецца правесці 15 жніўня.

# Цялят з падворкаў -- у калгасы

Няма неабходнасці даказваць, наколькі важна ў нашым раёне правесці сёлета, як належыць, закуп маладняку буйной рагатай жывёлы ў насельніцтва. Ён патрэбны для аднаўлення пагалоўя на фермах калгасаў, якое скарацілася, а таксама павелічэння вытворчасці малака і мяса ў далейшым.

За мінулы перыяд праведзена пэўная работа на месцах па арганізацыі закупу цялят. У пачатку года заключаны дагаворы паміж калгасамі і індывідуальнымі ўладальнікамі кароў, вызначаны ўмовы прыёмкі і здачы маладняку, аплаты. Многія гаспадары ўласных падворкаў стрымалі свае словы, здалі жывёлу на калгасныя фермы. Вось пацвярджэнне: па стану на 1 жніўня г.г. прынята ў насельніцтва 1208 цялят.

Праўда, у разрэзе гаспадарак выніковасць работы розная. Так, у калгасе "Парыжская камуна" закуплена 153 цяляці, што нават больш, чым было заключана дагавораў. Завяршаюць закуп калгасы "Кранштат" і "Радзіма". Яны прынялі адпаведна па 117 і 96 цялят.

Гэта ў шэрагу гаспадарак стала добрай традыцыяй. У той жа час традыцыйна правальваюць закуп калгасы "Забычанне", "Расія", "Бароньці" і некаторыя іншыя. Калгас "Забычанне" закупіў толькі 17 цялят, хаця дагавораў заключана ў восем разоў больш. Аналагічны вынік у калгасе "Расія". Не дацягнула да палавіны намечанага праўленне "Баронек".

На жаль, і ў цэлым па раёну недабор вялікі. Згодна з заключанымі дагаворамі паміж грамадзянамі і кіраўніцтвам калгасаў, трэба сёлета закупіць 1908 цялят. Значыць, калі ўлічыць ужо зробленае, неабходна яшчэ прыняць 700 галоў маладняку. Магчымасці для гэтага ёсць. Па-першае, сельскія жыхары маюць і гадуюць цялят. Па-другое, у раёне атрыманы выдзеленыя дзяржавай сродкі спецыяльна для аплаты за прынятую ў насельніцтва жывёлу. Разлік са здатчыкамі будзе праводзіцца неадкладна, па цане за 1 кілаграм вагі цяляці 334 рублі ( як вышэйшай укормленасці).

Кіраўніцтва ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама звяртаецца да насельніцтва раёна з просьбай здаць уласных цялят у калгасы ў бліжэйшыя дні. Нагадаем, што ўмовы дагавораў калгасамі будуць строга выканаы.

У выпадку, калі грамадзяне заключылі дагаворы, а потым ухіліліся ад продажу цялят гаспадаркам, да іх могуць быць прыняты меры згодна з рашэннямі праўленняў. Іншымі словамі, грубыя кармы (сена, салома), тэхніка па просьбах людзей будуць выдзяляцца за поўны кошт, а не па льготных цэнах. Таму леп не зрываць выкананне дагавораў.

Ёсць надзея на тое, што ўсе ўладальнікі жывёлы паступяць правільна, прададуць маладняк калгасам.

**Галіна ФЯДОРЧАНКА,**
**галоўны інспектар па закупках і якасці сельгаспрадукцыі райсельгасхарчу.**

УРАДЖАЙ –2000

# НЕ МАРУДЗЯЧЫ





Фотарэпартаж





Камбайнеры, вадзіцелі, тыя, хто заняты на сёлетняй уборцы ўраджаю, прыйшлі на мехдвор калгаса "Дуброва" рана. Хоць выязджаць яшчэ было нельга, не спала раса, затое трэба праверыць зноў і зноў гатоўнасць тэхнікі. Калі ўднілася, а сонейка прагрэла зямлю і збажыну, камбайны адзін за адным, як на парадзе, рушылі да месца прызначэння – на поле з жытам, што пад Печанежам. А ўслед за імі пайшлі аўтамашыны.

Вось і збажына, спелым калоссем нізка схіляецца, як бы вітаючы людзей. Развярнуўшыся, апусціўшы жняяркі, камбайны, плаўна ідуць па ніве. Нездарма ж і называюць іх "палявымі караблямі". Хутка на адным, а затым другім, трэцім замільгалі лямпачкі. Гэта сігнал вадзіцелям, каб пад'язджалі, бо бункеры ўжо поўныя. Залацістае зерне ручайком паплыло ў кузавы аўтамашын.

З-за няўстойлівага надвор'я крыху спазняюцца з уборкай усе. Але як толькі выдаецца сонечны дзянёк, без прамаруджвання выходзяць у поле камбайны і працуюць пакуль не ляжа раса на збажыну.

У ліку першых сярод гаспадарак па ўборцы ўраджаю заўсёды ідзе калгас "Дуброва". Не ўступае лідэрства і сёлета. На 7 жніўня тут было ўбрана 720 гектараў збажыны: 100 – азімай пшаніцы і 620 – жыта, валавы збор з якіх склаў адпаведна 281 і 1630 тон. Папярэдняя ўраджайнасць — 28 і 26,3 цэнтнера з гектара.

Усяго ж камбайнерам трэба ўбраць 1713 гектараў збажыны. Сваю задачу яны разумеюць добра і кожны з іх з пачуццём вялікай адказнасці працуе ў гэтыя дні. Не здаюць свайго лідэрства, як і ў папярэднія гады, Вячаслаў Балдуеў, Іван Ісаеў і Віктар Запекін. На іх рахунку намалочана ўжо адпаведна 306, 244 і 226 тон збожжа.

Дарэчы, Балдуеў сёлета працуе самастойна, у тыя ж гады ён быў памочнікам у бацькі. Сямейны экіпаж ішоў у першых радах па намалотах. Можна лічыць, што гэта ўжо 12 сезон яго на ўборцы ўраджаю. Вясной жа на трактары Т-150 культывіраваў глебу. Памочнікам у Вячаслава — Віктар Арлоў.

Дванаццатае жніво у І. Ісаева. Памочнікам ў яго Віктар Ісаеў, брат Івана. Віктар Запекін у мінулым годзе на ўборцы збожжавых выйшаў у лідэры, магчымасць выйсці і сёлета, яшчэ ёсць.

Усе яны ўжо маюць пэўны вопыт, а таму не бывае ў іх складаных сітуацый на ўборцы. Хаця сёлета яна, як сказалі камбайнеры, складаная. На некаторых участках палёў стаіць вада, грузне тэхніка.

У сціслыя тэрміны імкнуцца справіцца з уборкай камбайнеры, а інакш і нельга, ад гэтага залежыць захаванасць збожжа.

Вадзіцельскі састаў таксама падабраўся добры. У гэтыя дні на перавозцы лідзіруе Віктар Патапенка. На яго рахунку 323 тоны (даныя на 7 жніўня) перавезенага збожжа, 318 – у Юрыя Радчанкі і 256 – у Аляксандра Каралёва. Лідэрства, вядома, можа мяняцца, але, галоўнае, што ўсе вадзіцелі добрасумленна адносяцца да сваіх абавязкаў.

Сем камбайнаў працавала ў той дзень на збожжавым полі, столькі ж аўтамашын адвозілі збожжа.

На збожжатаку, у сваю чаргу, вялася дапрацоўка зерня, якога тут ужо ляжалі горы. Каля іх завіхаліся жанчыны. На ўсю моц працавалі збожжасушылкі.

Не першы год працуе на польскай сушылцы М-819 Іван Ляонаў. У яго задачу ўваходзіць пярвічная і паўторная ачыстка зерня. Агрэгат паслухмяны ў яго руках.

У калгасе ўжо ідзе засыпка насення. 83 тоны нарыхтавана азімай пшаніцы, якая адпавядае ўсім патрабаванням стандарту. Аб гэтым нам паведаміла начальнік раённай насеннай інспекцыі Тацццяна Міранкова. 50 тон засыпалі для патрэб калгаса, а 33 – для гаспадарак раёна.

Свой уклад ва ўборку ўраджаю ўносяць работнікі мясцовай сталовай, якія рыхтуюць і адвозяць на поле гарачыя абеды. Хутка ўпраўляюцца з раздачай страў повары Вольга Сергіевіч і Вольга Лызікава. Не больш 20 хвілін хапае ім, каб накарміць людзей.

Канвеер па ўборцы і перапрацоўцы збожжа працуе рытмічна, зладжана і, галоўнае, што ўсе зацікаўлены, каб хутчэй і без страт убраць ураджай-2000 года.

**Валянціна ФРАЛЯНКОВА.**

**На здымках: плыве па полю "карабель"; камбайнеры Вячаслаў Балдуеў і Віктар Арлоў; льецца ў кузаў "залаты" паток; у час абеду.**

**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

ПІШАМ ГІСТОРЫЮ КРАЮ

# Касцюкоўшчына на рубяжы XVIII-XIX стагоддзяў

**(Працяг. Пачатак у №№ 57, 59)**

Па стане на 1886 г. землі сучаснага Касцюковіцкага раёна ўваходзілі ў склад Клімавіцкага і Чэрыкаўскага паветаў.

Развіццю гандлю ў Касцюковічах садзейнічала блізкасць паштовага тракту, які звязваў Усходнюю Беларусь з Украінай. Ён праходзіў ад Оршы праз Горкі, Клімавічы, Касцюковічы, Бялынкавічы ў Сураж. Па тракце транзітам перавозілася прадукцыя сельскай гаспадаркі Беларусі: пянька, лён, спірт, ільняное і канаплянае семя. З Украіны завозілі хлеб, соль, жывёлу, алей.

У 1878 г. у Касцюковічах была адкрыта паштовая станцыя. У цэнтры мястэчка (дзе гарадскі сквер) узвышалася праваслаўная царква. Ля царквы – Базарная плошча. Плошча была акружана невялікімі драўлянымі крамамі (лаўкамі) і ларкамі.

Паводле "Опыта описания Могилевской губернии..." А. С. Дамбавецкага, у 1884 г. Касцюковічы Клімавіцкага павета, належалі (як спадчына) з 1852 г. пану Цеханавецкаму. Размешчаны пры р. Жадунька, за 35 вёрст ад Клімавіч. У статыстычным апісанні губерні 1784 г. упамінаюцца пад назвай "Старыя Касцюковічы". У 1880 г. – 1869 жыхароў, 340 драўляных дамоў, адна праваслаўная мураваная царква, адна яўрэйская драўляная сінагога і тры драўляныя малітоўныя школы.

У мястэчку знаходзілася прыходскае аднакласнае вучылішча, паштовая станцыя, пакой міравога суддзі 9-га ўчастка Чэрыкаўскай акругі, кватэра прыстава 3-га стана, валаснное праўленне і пры ім прыёмны пакой для хворых. У Касцюковічах кожны год адкрывалася ўстанова па вайсковай павіннасці па 2-м прызыўным участку Клімавіцкага павета. Знаходзілася вольная аптэка і 7 гарбарных заводаў. Праводзіліся два кірмашы на год – Мікалаеўскія, 9 мая і 6 снежня. Лічылася, што святы Мікола быў заступнікам падарожнікаў і купцоў.

У мястэчку было пяць вуліц: Муравільская (цяпер Ленінская), Прусінская (Інтэрнацыянальная), Крычаўская (Юнацкая), Мядзвёдаўка і Палонская.

Будаўніцтва мястэчка вялося вельмі марудна. Першыя цагляныя будынкі з'явіліся ў 80-х гадах XIX ст. Цагляны домік, дзе зараз размешчаны гурток раённага Цэнтра дзіцячай творчасці "Умелец", належыў шаўцу Івану Панамарову. Ён наймаў падзёншчыкаў. У мястэчку іх было каля 100 чалавек.

Цагляны двухпавярховы дом, што па вуліцы Мядзвёдаўка, належаў прадпрымальніку Івану Вялічку. У яго распараджэнні мелася некалькі гарбарных мануфактур. Прадпрымальнік Ізраіль Данілаў валодаў домам цагляным, двухпавярховым (вуліца Юнацкая). У двары яго працаваў гарбарны завод. У в. Канічы ён арэндаваў маёнтак, меў таксама рыбны промысел у Астрахані, свой уласны параход.

Дом, дзе зараз размешчана бібліятэка, належаў прадпрымальніку Л. Вінакураву. Ён валодаў маслабойкай. Там выраблялі канапляны і льняны алей.

Цагляны будынак, дзе насупраць размешчаны ААТ "Касцюковіцкі малаказавод", належаў Я. Маневічу. Былі ў яго буйныя крамы, кулінарная і кніжная, працавалі ваксабойня і маслабойка.

Цагляныя магазіны, што на рагу Ленінскай і Інтэрнацыянальнай вуліц, належалі Ільі Маневічу, які жыў у Астрахані, валодаў рыбным промыслам, а ў Касцюковічах – крамамі, дзе прадаваў астраханскую рыбу.

Прадпрымальнік Ягор Іваноў валодаў таксама майстэрняй (цяпер цэх дрэваапрацоўкі) па рамонце сельскагаспадарчых прылад – плугоў, барон і іншага інвентару.

Большасць жылых і гаспадарчых будынкаў у Касцюковічах былі драўлянымі. Супрацьпажарныя разрывы паміж будынкамі не захоўваліся. У мястэчку часта ўзнікалі пажары. Асабліва вялікі пажар адбыўся ў 1911 г., калі згарэла яго цэнтральная частка.

Мястэчка адбудоўвалася паволі. Купцы і прамыслоўцы пабудавалі 10 аднапавярховых цагляных дамоў, купецкі двор з цаглянай сцяной, тры цагляныя лаўкі. Земства забрукавала Прусінскую вуліцу, пабудавала местачковую бальніцу (яна потым дабудоўвалася), два фельчарска-акушэрскія пункты.

У 1880-х гадах XIX ст. важнае месца ў земляробстве займала канапляводства. Значная частка яго прадуктаў ішла на патрэбы сялян – выраб пяньковай пражы і канаплянага алею.

У Студзянецкай воласці, напрыклад, сяляне сеялі лён і каноплі ў вялікай колькасці. Пяньку, канаплянае і льняное семя збывалі купцам, якія гэтую прадукцыю адпраўлялі ў Смаленскую губерню. Кожны год з маст. Студзянец вывозілі пянькі 7 тыс. пудоў, канаплянага семя – 4 тыс. пудоў, льнянога – 1,5 тыс. пудоў.

У Студзянецкай і Саматэвіцкай валасцях сельскае насельніцтва займалася ляснымі промысламі (нарыхтоўкай лясных матэрыялаў,плаваннем дрэў). У вёсках Саматэвіцкай воласці некаторае развіццё атрымаў ганчарны промысел.

Развівалася і пчалярства. У Студзянецкай воласці сяляне трымалі 7 асобных пчальнікоў па 10-20 калод кожны. З валаснога цэнтра кожны год вывозілася 130 пудоў воску і 725 пудоў мёду

**Віктар БОНДАРАЎ.**

**(Працяг будзе).**

# Хто ж усіх прыгажэй?

На гэта пытанне шукалі адказ у Бялынкавіцкім сельскім Доме культуры. Тут праходзіў конкурс "Хто ж усіх прыгажэй?" Удзельніцы яго Ірына Бабкова, Іна Каранкевіч, Юля Замкоўская, Марына Грышанава, Алена Саверчанка змагаліся за тытул самай прыгожай дзяўчыны вёскі. Адразу варта зазначыць, што атрымаць яго было даволі няпроста. Удзельніцы конкурсу павінны былі паказаць сваё не толькі знешнія даныя, а і на што яны здольныя. У прыватнасці, ім даводзілася расказаць пра сябе ўсё, расказаць змястоўна, прыгожа.

Вядучы конкурсу Ігар Прахарэнка задаваў дзяўчатам пытанні, каб праверыць, наколькі яны эрудыраваныя. А ў конкурсе "Смак" удзельніцы расказвалі пра любімую страву, жадаючым прапаноўвалі рэцэпт яе.

Асабліва цікавымі былі конкурсы "Танцавальная салата" і "Узыходзячая зорка". Вось тут дзяўчаты і паказалі свае артыстычныя здольнасці.

У намінацыі "Мадэлі" канкурсанткі прыбіраліся ў касцюмы, якія прыдумалі самі для дому, адпачынку. Чаго тут толькі не давялося назіраць! Фантазіі, як кажуць, у дзяўчат спаўна, каб адлюстраваць малюнак сапраўднай жанчыны ў дамашніх умовах. А касцюм для адпачынку дапаўнялі то ролікавыя канькі, то лыжы, тэнісныя прыналежнасці і інш.

Варта адзначыць, што з душой пастараліся дзяўчаты. Нямала прыклалі свайго майстэрства і арганізатары яго: дырэктар Бялынкавіцкага сельскага Дома культуры Еўдакія Аўчыннікава і мастацкі кіраўнік Ігар Прахарэнка. Апошні, дарэчы, толькі прыступіў да сваіх абавязкаў. І гэта было яго, як кажуць, баявое хрышчэнне, якое прайшло без страт.

А тым не менш вялікія складанасці паўсталі перад кампетэнтным журы, якое прадстаўлялі работнікі аддзела культуры райвыканкама і Цэнтра культуры. І ўсё ж большую колькасць балаў набрала і самай прыгожай прызнана Іна Каранкевіч. Пераможца конкурсу, а таксама ўсе ўдзельніцы яго атрымалі добрыя прызы.

**Ул. інф.**

# Любителям "тихой охоты"

После проливных дождей начался активный рост грибов в лесах нашего района. Любителям собирать их необходимо знать, что по способности накапливать цезий-137 грибы условно делятся на четыре группы:

**1. Аккумуляторы:** гриб польский, свинушка, масленок, моховик желто-бурый, горькушка. В этих грибах даже при загрязнении почв, близких к фоновому значению (0,1-0,2 Ки/км2), содержание цезия-137 может превышать допустимый уровень. Поэтому сбор этих грибов не рекомендуется.

**2. Сильнонакапливающие:** грузди, волнушка розовая, зеленка, сыроежки. Собирать грибы этой группы допускается при плотности загрязнения почв до 1 Ки/км2 с обязательным радиометрическим контролем.

**3. Средненакапливающие:** лисичка настоящая, рядовка, белый гриб, подберёзовик, подосиновик.

**4. Слабонакапливающие:** опенок осенний, гриб-зонтик пестрый, дождевик. Заготовку грибов, относящихся к средне- и слабонакапливающим радиоцезий группам, рекомендуется проводить в лесах с плотностью загрязнения почв до 2 Ки/км2 с обязательным радиометрическим контролем.

В нашем районе на территории Савиничского, Деряженского, Паньковского, Белодубровского лесничества сбор грибов запрещен или ограничен отдельными кварталами леса. Так, из поступивших на проверку грибов в этом году содержание цезия-137 в Савиничском лесничестве (за д. Забычанье) превысило допустимый уровень в 100 раз, вблизи деревни Норкино в 2 раза. В Деряженском лесничестве вблизи деревни Ветухна превышен допустимый уровень в 5 раз. В Костюковичском лесничестве вблизи деревень Хорошевка, Антоновка, Волоськовня, Василевка содержание цезия-137, в пробах грибов, не превышает допустимого уровня. В Белодубровском лесничестве вблизи поселка Ворошилово, а также дачного поселка, содержание цезия-137 также не превышает допустимого уровня.

При заготовке и переработке грибов необходимо знать, что:

в шляпках грибов концентрация цезия-137 выше чем в ножках;

собранные грибы перед приготовлением необходимо обязательно очистить от прилипших частиц лесной подстилки, мха, земли; у некоторых грибов необходимо снять со шляпки кожицу.

Снижения содержания радионуклидов в грибах можно добиться путем их варки в течении 15-60 минут в соленой воде с добавлением уксуса или лимонной кислоты и удаления через каждые 15 минут отвара.

При сушке грибов содержание радионуклидов в них не снижается, поэтому сушить нужно только "чистые" грибы.

**Леонид ИЛЬЕНКОВ,**
**инженер-радиолог**
**Костюковичского лесхоза.**

# Токсикомания и наркомания – это смерть

Наркомания в Беларуси не получила того распространения, которое она имеет в ряде республик бывшего СССР. Тем не менее, инертность по отношению к ней, пусть даже как и не к столь распространенному явлению, неоправданна.

Наркомания – это опаснейшее и социально значимое заболевание. Она возникает у лиц, более или менее длительно употребляющих дурманящие наркотические вещества (опий, морфий, гашиш), вызывающие привыкание и болезненное непреодолимое пристрастие к ним, в малых дозах – эйфорию, а в больших – оглушение, наркотический сон. При наркомании глубоко поражаются внутренние органы, возникают неврологические и психические расстройства, развивается социальная деградация личности. Употребление наркотиков сопровождается формированием острой потребности в повторных их приёмах и стремлением к их получению на конечном этапе заболевания любыми путями, вплоть до преступления (психическая зависимость).

У наркоманов при лишении их наркотика развивается абстинентный синдром (синдром отнятия), проявления которого могут наблюдаться в нарушении деятельности отдельных органов и систем организма, а также в психических нарушениях (физическая зависимость). В зависимости от вещества, которым злоупотребляет наркоман, в абстинентном периоде могут возникнуть судорожные припадки и острый психоз с нарушением сознания, наплывом галлюцинаций, бредом. Нарушаются функции всех систем организма. Повышается кровяное давление, резко учащается сердцебиение. Мышцы напряжены, бывают мышечные дрожания, подёргивания и судороги. Больные не могут найти удобного положения, которое чередуется с резкой слабостью и обездвиженностью. Нарушается работа пищеварительного аппарата: возникает рвота, боли в желудке и по ходу кишечника, отсутствует аппетит, нарушается сон. По мере развития болезни наступает глубокое истощение организма, падает переносимость наркотика, прежние дозы вызывают тяжелое отравление. Без наркотика состояние слабости столь сильное, что больной может погибнуть. Часто при этом медпомощь оказывается безрезультатной. Смерть грозит наркоману и от случайной передозировки, от приема неизвестных непроверенных веществ, от заражения при инъекциях.

При различных видах наркомании проявления измененной реактивности организма выражены в большей или меньшей степени, но один признак характеризует любую наркоманию – это патологическое пристрастие к наркотикам и всё менее выраженная реакция на очередное введение того же самого их количества (для достижения прежнего психофизического эффекта больному требуется всё более высокая доза наркотика).

**С вами говорит врач**

Форма (вид) наркомании зависит от того, какое именно вещество, обладающее наркотическим эффектом, применяется в конкретном случае. Особенности этого вещества, использованные дозировки, частота употребления, его предпочтительный способ (прием внутрь таблеток или наркотиков, инъекции, вдыхание) определяют характер действия наркотика на организм.

Систематическое злоупотребление веществами, действующими преимущественно на центральную нервную систему и вызывающими состояние возбуждения, иногда галлюцинацию, принято называть токсикоманией.

Наиболее часто встречаются злоупотребления препаратами барбитуровой кислоты, транквилизирующими (успокаивающими) средствами, препаратами с холинолитическим действием, вдыханием паров органических растворителей. Так же, как и при употреблении наркотиков, при употреблении токсических веществ формируется своеобразный дефект личности, напоминающий органический. Лицо токсикомана становится маскообразным, мимика бедной. Замедлена речь и все движения. Нарастает вялость, меняется вся структура личности. Больные становятся черствыми, грубыми, эгоистичными, жестокими по отношению к близким. Резко падает работоспособность. Больные становятся непригодными к работе, требующей умственной и физической нагрузки.

Чаще употребляют токсические вещества 12 – 17-летние. Наблюдения показывают, что группой риска являются дети и подростки из неблагополучных семей, имеющих отклонение в формировании характера, перенесшие лёгкое повреждение головного мозга.

В настоящее время у нас есть на учете уже наркоманы.

Наркомания и токсикомания, приводя к тяжелым нарушениям психического и физического здоровья, наносят невосполнимый вред, как самим наркоманам и токсикоманам, так и окружающим их лицам и, следовательно, всему обществу. Поэтому нашим законодательством установлена уголовная ответственность за незаконное изготовление, приобретение, пересылку, хранение, перевозку или сбыт наркотиков, организацию или содержание притонов для их потребления.

**Галина КАПАЕВА,**
**врач - невропатолог**
**райполиклиники.**




*Сердечно поздравляем с 45-летием со дня рождения дорогую, любимую мамочку, тещу*
***РУДИКОВУ***
***Татьяну Леонтьевну***

*Желаем счастья в этот день,*
*Тепла от тех, кто будет рядом,*
*Улыбки светлой на лице*
*И солнечных лучей в награду.*
*Неутомимо мчат года –*
*Их удержать не в нашей власти,*
*Так пусть же будет так всегда:*
*Чем больше лет – тем больше счастья.*
***С любовью дочь Елена, зять Михаил.***

ХХХ

*Сердечно поздравляем с днем рождения*
***ШИТИКОВА***
***Виталия Викторовича***

*Желаем в жизни лишь удачи*
*И достижения мечты,*
*Пусть будут легкими задачи*
*На трудном жизненном пути.*
*Будь молодым, всегда красивым,*
*Желанным, добрым и простым,*
*Всегда приветливым и милым,*
*Всегда любимым, дорогим.*
***Бабушка Маша, отец, дядя Саша, тётя Валя, Ира, Катя и Николай.***

ХХХ

*Горячо и сердечно поздравляем с днем рождения дорогого, любимого мужа, отца*
***ГОМОНОВА***
***Александра Николаевича***

*Пусть в этот день засветит ярче солнце*
*И радость жизни пусть закроет тьму,*
*И пусть здоровье будет лучшим из подарков,*
*А всё хорошее приложится к нему.*
*Хочется тебе в этот день пожелать:*
*Не болеть, не грустить, не скучать*
*И еще много-много раз*
*С нами дни рожденья встречать.*
***С любовью к тебе жена, сын Андрюша и дочь Настенька.***

ХХХ

*Горячо и сердечно поздравляем с днем рождения дорогого зятя*
***ГОМОНОВА***
***Александра Николаевича***
*(д. Белая Дуброва)*

*Улетают годы, словно пух тополей,*
*Не грусти, провожая их взглядом,*
*Ведь года – не беда и совсем ерунда,*
*Коль семья с тобой рядом.*
*Пусть горе, разные напасти*
*Забудут вход в твой светлый дом*
*И только истинное счастье*
*Большим огнем сияет в нем.*
***С любовью к тебе теща, Лёня.***

ХХХ

*Сердечно поздравляем с днем рождения дорогую, любимую внучку, племянницу, сестричку*
***СТЕФАНЕНКО***
***Марину***

*Аромат всех цветов и румянец зари*
*Мы готовы тебе в этот день подарить,*
*Нежность роз поутру, свет, добро, доброту,*
*Много ласковых слов и земную любовь.*
*Все, что светлое есть и большое в судьбе,*
*Мы желаем все это сегодня тебе.*
***Бабушка, дедушка, тетя Наташа, дядя Валера, Дима, Саша.***



Сям'я КАБЫЛІНСКІХ выказвае самую шчырую падзяку старшыні райпа Валерыю Мікалаевічу Маразаву за аказаную дапамогу ў пахаванні мужа, бацькі, дзядулі – КАБЫЛІНСКАГА Ягора Яфімавіча.

Выказваем шчырую падзяку калектывам райпа, ААТ "Касцюковіцкі малаказавод", сярэдняй школы № 3, сям'і Аўхачовых, суседзям, знаёмым у аказанні маральнай і матэрыяльнай падтрымкі ў час пахавання Я. Я. КАБЫЛІНСКАГА.
Сям'я КАБЫЛІНСКІХ.

**Абразок**

# УПАДОБА

У аднаго гаспадара было дзве каровы. Адну звалі Чарнушка, другую – Сяродка. Калі ўзнікла праблема з сенам, адну карову прадалі. І гаспадар і гаспадыня надта шкадавалі сваіх карміліц. Але што паробіш. Прадалі Чарнушку блізкаму родзічу.

Усю зіму і амаль вясну, да сярэдзіны мая знаходзілася Чарнушка ў другім хляве. Калі пачалася пасьба прыватных кароў, маці і дачка зноў апынуліся ў адным гурце.

Пастухі заўважылі: у які бок ідзе Чарнушка, туды і Сяродка. Нават у хвіліны адпачынку яны кладуцца побач. Ляжаць і глядзяць адна адной у вочы.

Чарнушка, як толькі прыганяюць статак з поля, ідзе за дачкой, да свайго былога двара. Але гаспадыня, маладая яшчэ жанчына, не жадае чытаць думак Чарнушкі. Спачатку яна робіць не злаславы, спакойны вокрык:

— Чарнушка, ты куды?!

І калі ўжо бачыць, што карова працягвае ісці, гаспадыня бярэ дубец у рукі. Чарнушка з сумным выглядам падпарадкоўваецца ёй. Вочы жывёліны засціла туман. Але гаспадыня і гэтага не заўважае, ёй невядома, што не водблескі вячэрняй зары бачыць карова, а раніцу новага, наступнага дня. Калі яны зноў, маці і дачка, будуць разам...

**Васіль КОЦІКАЎ.**

**Калектыў Касцюковіцкага вытворчага ўчастка Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода глыбока смуткуе з выпадку дачаснай смерці**
**ШУРЛАКОВА**
**Міхаіла Васільевіча**
**і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Жыхары пад'езда № 5 дома 123, што па вуліцы Ленінскай, глыбока смуткуюць з прычыны трагічнай смерці**
**ШУРЛАКОВА**
**Міхаіла Васільевіча**
**і выказваюць спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Жыхары дома №123, што па вуліцы Ленінскай, глыбока смуткуюць з выпадку трагічнай смерці**
**ШУРЛАКОВА**
**Міхаіла Васільевіча**
**і выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў станцыі дзіцячага турызму і краязнаўства выказвае глыбокае спачуванне ГАРЛАЧОВАЙ Лідзії Васільеўне з выпадку напаткаўшага гора – смерці БАЦЬКІ.**



**Адміністрацыя, прафсаюзны камітэт ААТ "Касцюковіцкі райаграпрамэнерга" выказваюць глыбокае спачуванне начальніку рамонтнай майстэрні ТУРЛОВАЙ Антаніне Якаўлеўне з выпадку напаткаўшага гора – смерці МУЖА.**


**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
*213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43*
*Індэкс газеты 64045*

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*галоўны рэдактар – 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар – 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі – 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя – 2-23-55.*

*Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.*
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

*Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш*
*Тыраж 1514 экземпляраў*
*Друк афсетны*
*Падпісана ў друк 8. 08. 2000 г. 18.00*
*Заказ № 61*

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

**Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.**